

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 7 (ліпень), 2013

# Мяжа




**Берасцейскія прадпрымальнікі не выпрацавалі кансалідаваную пазіцыю**

(Старонка 3)

# ЗЬМЕСТ

## Бярозаўскія і івацэвіцкія прадпрымальнікі падтрымалі працяг страйку

Бярозаўскія і івацэвіцкія прадпрымальнікі падтрымалі страйк 1-2-га ліпеня. Акрамя некалькі ралетаў, большасць былі зачынены на рынках Бярозы і Івацэвічаў.

Бярозаўскія прадпрымальнікі паведамілі, што накіроўвалі двух прадстаўнікоў у райвыканкам, якія сустракаліся з намеснікам старшыні райвыканкама па эканоміцы Данутай Гардзейчык. Яна таксама пагадзілася, што рашэнне па тэхрэгламенту для дробных прадпрымальнікаў памылковае. Параіла ісці працаваць па-старому. Яна выказала спадзяванне, што такое рашэнне будзе перагледжана і што яно лепш падыходзіць для буйнога гандлю.

Як стала вядома ад старшыні рэспубліканскага савета прадпрымальнікаў Анатолія Змітровіча, прадпрымальнікі могуць працаваць па-ранейшаму. Яны атрымалі перадышку на год. Чакаецца што за год пытанне вырашыцца на карысць дробнага бізнэсу.

*spring96.org/be/news/64224*

## Берасцейскія прадпрымальнікі не выпрацавалі кансалідаваную пазіцыю

Сёння на рынку каля Цэнтральнага ўнівермагу адбыўся сход прадстаўнікоў малога бізнесу, на якім азнаёміліся з дакумантамі, што дазваляюць ім працаваць бліжэйшыя чатыры месяцы па старой схеме.

Гаворыць сябра Рады прадпрымальнікаў рынку Ларыса Быцко:

- *За апошні тыдзень мы дамагліся таго, што выйшлі гэтыя дзве паперкі. Нарэшце мы іх пабачылі ў друку. Згодна якім бліжэйшыя чатыры месяцы мы можам працаваць. Гэта папера Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі Рэспублікі Беларусь, яна паведамляе, што да першага лістапада мы можам працаваць спакойна. З першага лістапада адбудзецца маніторынг. Спачатку прыходзяць і правяраюць нашыя працоўныя месцы, выяўляюць нашыя недахопы і даюць прадпісанне - якія недахопы мы павінны ліквідаваць.*

Пазіцыя прадпрымальнікаў адносна таго, ці варта працягваць

працу падзялілася: адныя – за, другія – супраць, а трэція – пакуль не вызначыліся.




*- Не ведаю, можа нават з першага лістапада будзем спыняць сваю дзейнасць.*

*- Так, як зараз, то мы зусім не можам працаваць. Гэта не рэальна.*

*- Будзем страйкаваць да страты пульсу.*

*- Наша прадпрымальніцая Рада будзе да першага лістапада пісаць розныя дакументы і іх дасылаць у адпаведныя ўстановы. А мы будзем іх падтрымліваць.*

*- Што рабіць? Пакуль будзем працаваць.*

*- Калі ўрад паставіў мэту закрыць нас – то як з імі змагацца. А калі яны проста не ведаюць, што адбываецца, то будзем змагацца метадам страйку.*

Кожны, хто хоча працягваць працу, – будзе яе працягваць, частка – страйкаваць, ячшэ частка – рыхтавацца да вядзення бізнесу за межамі Рэспублікі Беларусь.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=15535#.UdcuX-db9aV*

## Белаазёрскі актывіст будзе абскарджваць высновы пракуратураў

Пракуратура Берасцейскай вобласці не адмяніла папярэджання, абвешчанага пракуратурай Бярозаўскага раёна актывісту кампаніі “Гавары праўду” Аляксандру Кузьміну з Белаазёрска. Папярэджанне актывіст атрымаў за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Але адказ за подпісам намесніка пракурора, старэйшага саветніка юстыцыі Аляксандра Точкі выклікае перадусім здзіўленне. Кажа другі актывіст кампаніі Валянцін Лазарэнкаў:

- Спадар Точка робіць выснову, што Бярозаўскі РАУС не знайшоў ніякай падставы для вынясення папярэджання. І калі адказ існуе, а за яго дадаткова бярозаўскі пракурор выносіць нейкае папярэджаннне, то гэта незразумела. Але гэта зразумела на дадзены момант намесніку пракурора Берасцейскай вобласці. Калі Бярозаўскі РАУС не бачыць ніякага складу незаконных дзеянняў, то аўтаматычна ніякага папярэджання не мусіць быць.

Паводле Лазарэнкава, скарга на такія высновы пракуратураў будзе падрыхтавана і адпраўлена ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=15660#.UdyOA-eplaV*

## “Тыдзень палітвязня” ў Бярозе

Бяроза далучылася да кампаніі салідарнасці “Тыдзень палітвязня”. Людзі дасылаюць паштоўкі з цёплымі словамі да нашых палітвязняў і выказваюць салідарнасць у справе дэмакратыі:

- Мы падтрымліваем усіх, хто змагаецца за вольную Беларусь, таму прымаем удзел у гэтай акцыі. Беларусь мусіць быць свабоднай і незалежнай ад Расіі і быць у Еўразвязе.

- Падтрымліваю, бо мне вельмі шкода людзей, якія змагаюцца з рэжымам Лукашэнкі і бароняць нашую светлую будучыню. У іх забіраюць здароўе без віны.

- Гэтыя людзі больш патрэбныя на волі, а не за кратамі. Зычым усім палітвязням трымацца, бо народ беларускі і будучае за вамі.

Гэты тыдзень салідарнасці з Паўлам Севярынцам. Папярэдне паштоўкі дасланы Міколу Статкевічу, Зміцеру Дашкевічу і Эдуарду Лобаву.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=15759#.Ud-zredb-il*

## Брэст: да канчаткова судовага разбіральніцтва улады высяляюць сям’ю

Беспаспяховымі былі захады сям’і Гадуноў давесці праз судовыя інстанцыі, што рашэнне гарвыканкаму пра непрыдатны стан дома №18 па вуліцы Герояў абароны Брэсцкай крэпасці, неабгрунтаванае.

Разбіральніцтва вакол будынка, які знаходзіцца зусім побач з цэнтральным гарадаскім паркам Брэста, цягнецца не адзін год. У выніку Уладзіміру Гадуну так не ўдалося пераканаць суд, што драўляны дом, дзе жыве ягоная сям’я, не знаходзіцца ў аварыным стане, а мясцовыя ўлады проста намагаюцца атрымаць участак зямлі ў вельмі прывабным месцы, які можна прапанаваць інвестарам за добрыя грошы.

Уладзімір Гадун працягвае абскарджваць судовыя рашэнні, што былі вынесеныя на карысць гарвыканкаму, але прадстаўнікі ЖЭС праявілі нецярплівасць і, выклікаўшы судовых выканаўцаў і міліцыю, 12 ліпеня паспрабавалі паскорыць прымусовае сям’і Гадуноў (замест уласнага будынку ўлады прапануюць кватэру ў аддаленым мікрараёне Брэста). Адзінае, што ўдалося гаспадару дому пасля перамоваў у гарвыканкаме, гэта дамагчыся адтэрміноўкі высялення на адзін тыдзень.

Як распавёў Уладзімір Гадун, акрамя зваротаў ва ўсе судовыя інстанцыі ён пісаў лісты і ў Генеральную пракуратуру, і спрабаваў пераканаць, што рашэнне наконт непрыдатнага стану для пражывання ў згаданым будынку, не мае падставаў. Так, Гадун сцвярджае, што яго жытло цалкам прыгоднае, бо забяспячана вадой, газам, ацяпленнем, каналізацыяй. Акрамя таго, дом знаходзіцца побач з гарадскім паркам, дзіцячымі і медычнымі ўстановамі. Усяго гэтага бракуе ў мікрараёне Паўднёвы, куды ўлады спрабуюць прымусова перасяліць сям’ю Гадуноў.

*spring96.org/be/news/64424*

## Бярозаўскія актывісты наведалі Паўла Севярынца

Грамадскія актывісты з Бярозаўшчыны наведалі Паўла Севярынца. Штомесячнае наведванне імі палітвязня стала ўжо традыцыйным. Завезлі прадукты, крынічную ваду і паштоўкі ад сем’яў, якія прынялі ўдзел у акцыі “Тыдзень палітвязня”.

Павел Севярынец вельмі ўдзячны тым, хто яго і іншых палітвязняў падтрымлівае, але лічыць, што патрэбныя больш дзейсныя акцыі для паскарэння вызвалення палітзняволеных:



- Плён, напэўна, такі, што дасланыя паштоўкі здольныя пераканаць міліцыянтаў альбо канваіраў, да якіх яны даходзяць, што пра палітвязняў памятаюць. Пэўная сітуацыя салідарнасці ўтвараецца, калі людзі садзяцца разам і гэтыя паштоўкі падпісваюць. Трэба аддаць належнае - дзякуй за тое, што людзі робяць гэта! Але ціск і кампанія за вызваленне палітвязняў – гэта, канешне, нешта іншае. Гэта іншы маштаб, гэта іншы фармат. Гэта кампаніі, гэта дзясяткі і сотні тысячаў распаўсюджаных інфармацыйных матэрыялаў, пікеты, творчыя акцыі, якія ў сённяшняй сітуацыі ўсё ж такі можна праводзіць.

Па словах Паўла Севярынца, масавы ціск на рэжым па пытаннях палітвязняў павінен ісці знутры Беларусі. На жаль, яго няма.

*www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=15790#.UeRNH-db9YJ*

# Праваабаронцы прызналі Андрэя Гайдукова палітзняволеным

Асуджэнне Гай дукова з'яўляецца неабгрунтаваным і палітычна матываваным. Пра гэта гаворыцца ў сумеснай заяве Беларускага Хельсінкскага камітэта і праваабаронцаў-вясноўцаў.

Праваабаронцы зазначаюць, што асуджэнне Гайдукова «ў значнай ступені мела на мэце павышэнне ролі і значнасці КДБ у дзяржаве непрымальнымі ў дэмакратычным грамадстве метадамі, а пазбаўленне волі было прыменена з парушэннем права на справядлівы судовы разбор, іншых правоў і свабод, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, працягласць пазбаўлення волі яўна непрапарцыянальная (неадэкватная) правапарушэнню, у якім асоба была прызнаная вінаватай».

**Аўтары заявы патрабуюць неадкладна вызваліць Гайдукова, адмяніць незаконна вынесены прыгавор і перагледзець яго пры выкананні права на справядлівы судовы разбор.**

Гайдукоў быў асуджаны 1 ліпеня па частцы 1 артыкула 14 і артыкуле 356 прым. Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі ці разведвальным органам замежнай дзяржавы). Віцебскі абласны суд пад старшынствам Галіны Урбановіч прыгаварыў яго да паўтара года пазбаўлення волі.

Як зазначаюць праваабаронцы, крымінальны пераслед Гайдукова пачаўся ў лістападзе 2012 года, калі ён быў затрыманы супрацоўнікамі дзяржбяспекі і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ. 13 лістапада 2012 года КДБ распаўсюдзіў інфармацыю пра спыненне супрацьпраўнай дзейнасці грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які займаўся па заданні замежнай разведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару. У дачыненні да затрыманага была распачата крымінальная справа па ч. 1 арт. 356 КК (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці). Ужо падчас судовага разбору абвінавачванне перакваліфікавалі.

**Праваабаронцы таксама канстатуюць, што папярэдняе расследаванне і судовы разбор былі поўнасцю закрытымі і непразрыстымі, нягледзячы на павышаную цікавасць да гэтай справы з боку грамадскасці і СМІ.**

Пры гэтым кампетэнтнымі органамі не было дадзена ніякага абгрунтавання неабходнасці разгляду справы ў закрытым судовым пасяджэнні. «З улікам таго, што Гайдукову спачатку ставілася ў віну ўчыненне больш цяжкага злачынства (арт. 356 КК — здрада дзяржаве), а ў далейшым яго дзеянні былі перакваліфікаваныя на менш цяжкае злачынства, можна меркаваць, што неабходнасць у разглядзе гэтай справы ў закрытым судовым разборы была выкліканая жаданнем утаіць ад грамадскасці незаконныя метады расследавання і правакаванне абвінавачванага да ўчынення больш цяжкага злачынства», — сказана ў заяве.

На думку праваабаронцаў, такая кваліфікацыя ўчыненага судом паказвае, што «КДБ увёў у зман грамадскасць у той час, як супрацоўнікамі КДБ не было выяўлена факта ўстанаўлення грамадзянінам Рэспублікі Беларусь супрацьпраўнага супрацоўніцтва з органамі замежнай дзяржавы». Пры ўстаноўленых акалічнасцях супрацоўнікі КДБ працягвалі схіляць Гайдукова да ўчынення больш цяжкага злачынства, г.зн. учынілі правакацыю, падкрэсліваецца ў заяве.

**Аўтары заявы таксама зазначаюць, што падчас расследавання парушалася права Гайдукова на абарону, адвольна абмяжоўваліся яго сустрэчы з адвакатам. Кантакты са сваякамі былі абмежаваныя нерэгулярнай, жорстка цэнзураванай перапіскай. Мерай уздзеяння на адваката Гайдукова стала папярэджанне аб крымінальнай адказнасці за абвяшчэнне звестак папярэдняга расследавання.**

«Гэтая мера, якая празмерна шырока прымяняецца на практыцы, сур’ёзна абмяжоўвае магчымасці адваката адстойваць інтарэсы свайго падабароннага», — падкрэсліваецца ў заяве.

Праваабаронцы звяртаюць увагу на тое, што артыкул 356 прым. быў унесены ў КК Беларусі ў лістападзе 2011 года. «Беларускія праваабаронцы ўжо тады ўказвалі на недапушчальнасць

выкарыстання ў крымінальным законе неканкрэтных азначэнняў, у тым ліку якія дапускаюць адвольнае ці расшыральнае іх тлумачэнне», зазначаецца ў заяве.

У канцы мая 2013 года з заявы старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка стала вядома, што крымінальная справа па абвінавачванні Гайдукова накіраваная ў суд, дзе будзе разгледжаная на закрытым судовым пасяджэнні; выстаўленае абвінавачванне не мянялася.

На думку праваабаронцаў, «такая празмерная актыўнасць кіраўніка КДБ, а не пракуратуры, якая падтрымлівае абвінавачванне ў судзе, у асвятленні дэталяў і перспектыў судовага разбору сведчыла пра магчымы ўплыў КДБ на высновы і працэсуальныя рашэнні суда». «Характар абвінавачвання з улікам грамадскай значнасці справы не пакідае сумненняў у тым, што разгляд яе ў судзе павінен быў прайсці з выкананнем прынцыпу галоснасці, бо перадумоў для яго абмежавання, прадугледжаных законам, не існавала», — гаворыцца ў заяве.

**Праваабарончыя арганізацыі таксама зазначаюць, што дзеянне, за ўчыненне якога асуджаны Гайдукоў, адносіцца да катэгорыі злачынстваў, якія не ўяўляюць вялікай грамадскай небяспекі. Да асобы, якая абвінавачваецца ў яго ўчыненні, нельга прымяніць меру стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту.**

«Аналіз наяўных даных не дазваляе зрабіць выснову пра тое, што прызначанае судом пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі з'яўляецца апраўданым. На наш погляд, факт прызнання судом Гайдукова вінаватым у замаху на ўчыненне злачынства, што адносіцца да катэгорыі, якая не ўяўляе вялікай грамадскай небяспекі, раней не судзімага, не дазваляў суду прымяніць да яго рэальнае пазбаўленне волі. Такім чынам, узяцце пад варту і асуджэнне на пазбаўленне волі з'яўляецца самавольным», — падкрэсліваецца ў заяве беларускіх праваабаронцаў.

Аператар наваполацкага НПЗ «Нафтан», лідар незарэгістраванага грамадскага аб'яднання «Саюз маладых інтэлектуалаў» Андрэй Гайдукоў быў затрыманы 8 лістапада 2012

года. Паводле версіі следства — «у момант закладкі тайніка са звесткамі, што цікавяць замежныя спецслужбы».

**Прадстаўнікі апазіцыі і праваабаронцы звязваюць крымінальны праслед Гайдукова з яго актыўнай грамадскай дзейнасцю. Абарона асуджанага актывіста мае намер абскардзіць прысуд.**

*nn.by/?c=ar&i=112071*

## Па заробак праз суд

Чацвёра рабочых, сябраў Свабоднага прафсаюза Беларускага з Белаазёрска ўжо 8 месяцаў не могуць дабіцца выдачы заробку ў агульнай суме 34 мільёны ад Таварыства з дадатковай адказнасцю "БелБудСфера". На чарговы запыт пра разлічэнне спатрэбілася пракуратура Берасцейскай вобласці, каб атрымаць адказ, калі будзе выдадзены заробак. Адказ "БелБудСферы" абурыў, але на здзівіў, кажа старшыня абласнога Свабоднага прафсаюза Беларускага Валянцін Лазарэнкаў:

- Адказ такі: што нічога не ведаюць і не хочуць ведаць, і нічога такога не было з тымі грамадзянамі, якія ў іх працавалі каля месяца яшчэ ў лістападзе мінулага года. У прынцыпе, мы такога і чакалі. Заўсёды так бывае, калі не афармляюцца згодна працоўнага кодэкса грамадзянскія дамовы паміж наймальнікам і працаўнікамі.

Па словах Лазарэнкава, зараз рыхтуецца заява ў суд, дзе рабочыя намераны даказаць, што працавалі ў "БелБудСферы" і не былі разлічаны канчаткова.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=16107#.UfAqoedb-im*

## Мікалай Статкевіч высока цэніць маладых палітвязняў

Мікалай Статкевіч высока цэніць тых маладых палітычных вязняў, што зараз знаходзяцца за кратамі.

Пра гэта ён паведаміў сваёй жонцы Марыне Адамовіч у час апошняга двухгадзіннага спаткання ў Магілёўскай турме.

Былы кандыдат у прэзідэнты лічыць гэтых людзей патэнцыйнымі новымі лідарамі.

Марына Адамовіч:

- Ён нават пажартаваў, сказаў, што нехта ва ўладзе, мабыць, прыхільнік дэмакратычнай апазіцыі і, гледзячы на раздрай унутры яе, вырашыў правесці своеасаблівы кастынг, каб людзі маглі выбіраць. Параўноваць і выбіраць. Абсалютна ўпэўнена, што з гэтых людзей могуць вырасці моцныя, цудоўныя лідары.

Паводле праваабаронцаў, у беларускіх турмах па палітычных матывах знаходзіцца 12 чалавек. Сярод іх, сябры "Маладога Фронту" Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў, анархісты Ігар Аліневіч і Мікалай Дзядок ды іншыя.

*www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=15537#.UdcuX-db9aV*

## Акцыі ў падтрымку Алеся Бяляцкага

Праваабаронца Наста Лойка распавяла, што грамадскія актывісты і праваабаронцы падалі 16 заявак на правядзенне 4 жніўня ў розных гарадах Беларусі пікетаў і іншых мерапрыемстваў у знак салідарнасці з беларускімі палітвязнямі. Паводле яе слоў, на сёння заяўкі пададзеныя ў Берасці, Гародні, Магілёве, Віцебску, Гомелі, Барысаве, Маладэчне, Воршы, Баранавічах, Жодзіна, Бабруйску, Мазыры, Наваполацку, Смаргонях, Рэчыцы і Бярозе.

Праваабаронца з Берасця Уладзімір Вялічкін падаў заяўку ў Берасцейскі гарвыканкам на правядзенне 4-га жніўня адзіночнага пікету з нагоды другой гадавіны зняволення кіраўніка Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага. Пікет замоўлены ў Парку воінаў-інтэрнацыяналістаў – у дазволеным уладамі месцы. Для беларускіх праваабаронцаў 4 жніўня асабліва цяжкі дзень, кажа **Уладзімір Вялічкін**:

- Два гады таму, 4-га жніўня 2011 года, кіраўнік Праваабарончага цэнтра "Вясна" быў узяты пад варту. Мэта майго пікету – заявіць пратэст з гэтай нагоды. Я лічу, што ён асуджаны незаконна. Таксама хачу прыцягнуць увагу грамадзян Берасця да праблемы палітзняволеных у Рэспубліцы Беларусь, якіх апошнім часам становіцца не меней, а чамусьці болей.

4 жніўня 2011 года Алесь Бяляцкі быў арыштаваны па абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў. Асуджаны на 4 гады і 6 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

*www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=16012#.UfAqoedb-im*

## Пратакол перапісаны міліцыянтамі тройчы

У вялікім жаданні пакараць арганізатара Мілавідскага фэсту ў гонар паўстанцаў 1863 года Віктара Сырыцу супрацоўнікі Баранавіцкага гарадскога аддзела міліцыі трэці раз перарабляюць адміністрацыйны пратакол, які ім вяртаюць з суда, каб хоць неяк падагнаць да патрэбных параметраў, кажа Віктар Сырыца:

– Прапанавалі трэці раз падпісаць пратакол, што я арганізаваў масавае мерапрыемства ў Мілавідах, прысвечанае 150-м угодкам паўстання Кастуся Каліноўскага. Я падпісаў пратакол, але напісаў, што гэта не я парушыў закон, а Баранавіцкі райвыканкам, які двойчы 3 і 20 траўня незаконна забараніў нам патрыятычны фэст у гонар касінераў Кастуся Каліноўскага, што не я парушыў закон, а Баранавіцкі райвыканкам парушае артыкул 51-ы Канстытуцыі, якая гарантуе нам права на ўдзел у культурным жыцці.

Па словах Віктара Сырыцы, у першым пратаколе яго абвінавацілі ў арганізацыі і правядзенні 2 чэрвеня несанкцыянаванага мерапрыемства. У другім пратаколе –што не спыніў падрыхтоўку і правёў масавае мерапрыемства. У трэцім - у арганізацыі і правядзенні забароненага грамадска-масавага мерапрыемства.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=15970#.UemUzOdb9YJ*

## Лісты Статкевіча адпраўляюць з турмы ў пракуратуру

Праблемы з ліставаннем з палітвязнем Мікалаем Статкевічам набылі новы паварот.

Як паведаміла сайту statkevich.org жонка палітыка, Марына Адамовіч, праблемы з ліставаннем узнікалі шмат разоў і раней. Але тады лісты Мікалая Статкевіча проста «не праходзілі цэнзуру», а лісты ад яго адрасатаў «знікалі» ці, у выпадку, калі ліст быў «заказны», палітвязень атрымліваў толькі пусты канверт.

- Апошні з атрыманых лістоў мяне здзівіў, - распавяла Марына. - У ім Мікалай паведаміў, што яго папярэднія лісты былі не проста канфіскаваныя, а накіраваныя ў абласную пракуратуру разам з яго паказаннямі аб сітуацыі ў Шклоўскай калоніі, пра якую ён напісаў

у гэтым лісце.

- Цікава, што б гэта значыла? Ці то адміністрацыя турмы баіцца, каб інфармацыя аб тым, што адбывалася ва ўстановах пенетэцыярнай сістэмы, дабралася да волі? Ці то, наадварот, вырашылі праявіць пільнасць і «прасігналізаваць» пра выяўленыя парушэнні? Але ў такім выпадку можна было копіяй ліста скарыстацца. Таму схіляюся да першага, - сказала Марына Адамовіч.

Жанчына не ведае пра змест ліста, але кажа, што не цяжка здагадацца, што распавесці Мікалаю Статкевічу было пра што.

- Я вельмі добра памятаю, што там адбывалася як раз два гады таму, калі пасля прыезду Лукашэнкі ў Шклоў і яго знакамітай прапановы «палітычным» «папрасіцца», там пачаўся страшны ціск на іх. Таму, думаю, напісаць Мікалаю было пра што. Спадзяюся, што схаваць гэта ўжо немагчыма, нават, калі будзе канфіскаваны яшчэ дзесятак лістоў.

Нагадаем, Мікалай Статкевіч быў адным з кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах 2010 года. Арыштаваны пасля масавай дэманстрацыі пратэсту супраць іх фальсіфікацый.

26 траўня 2011 года палітык быў прысуджаны судом Партызанскага раёна Менска да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Рашэннем суда ад 12 студзеня 2012 года ўмовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, і ён быў пераведзены з калоніі № 17 у Шклове ў турму № 4 Магілёва.

Статкевіча часта кідаюць у карцэр, палітвязень абмежаваны ў перадачах і сустрэчах са сваякамі, па загадзе ўладаў у дачыненні да яго ажыццяўляюцца правакацыі.

*charter97.org/be/news/2013/7/17/72363/*

## Белаазёрскі актывіст будзе абскарджваць высновы пракуратураў

Пракуратура Берасцейскай вобласці не адмяніла папярэджання, абвешчанага пракуратурай Бярозаўскага раёна актывісту кампаніі

“Гавары праўду” Аляксандру Кузьміну з Белаазёрска. Папярэджанне актывіст атрымаў за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Але адказ за подпісам намесніка пракурора, старэйшага саветніка юстыцыі Аляксандра Точкі выклікае перадусім здзіўленне. Кажа другі актывіст кампаніі Валянцін Лазарэнкаў:

- Спадар Точка робіць выснову, што Бярозаўскі РАУС не знайшоў ніякай падставы для вынясення папярэджання. І калі адказ існуе, а за яго дадаткова бярозаўскі пракурор выносіць нейкае папярэджанннe, то гэта незразумела. Але гэта зразумела на дадзены момант намесніку пракурора Берасцейскай вобласці. Калі Бярозаўскі РАУС не бачыць ніякага складу незаконных дзеянняў, то аўтаматычна ніякага папярэджання не мусіць быць.

Паводле Лазарэнкава, скарга на такія высновы пракуратураў будзе падрыхтавана і адпраўлена ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=15660#.UdyOA-eplaV*

## Станіслаў Шушкевіч: Гэта быў рашучы крок да нашай незалежнасці

27-га ліпеня, 23 гады таму, дэпутаты Вярхоўнага савета БССР ухвалілі Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. Менавіта гэты дзень з 1991-га па 1996-ы год у Беларусі адзначалася галоўнае дзяржаўнае свята – Дзень Незалежнасці. Тагачасны дэпутат Вярхоўнага Савету, а пазней першы кіраўнік незалежнай Беларусі **Станіслаў Шушкевіч** згадвае як Дэкларацыя рыхтавалася і прымалася 23 гады таму.

- Дэкларацыя была прынятая, таму што ЦК КПБ ужо зразумеў, што трэба нешта рабіць. І перад гэтым шмат разоў з дапамогай камуністаў, якія былі ў Парламенце, адкідваліся прапановы БНФ, і ніводная з прапаноў пра тое, каб прыняць Дэкларацыю аб суверэнітэце, не разглядалася.

*Але ў пачатку ліпеня прыйшоў сакратар ЦК КПБ Сакалоў да Дземянцея, і Дземянцей прапанаваў Рэзалюцыю аб незалежнасці. Яна складалася з 38 артыкулаў, і гэта была хутчэй “Рэзалюцыя*

*залежнасці”, таму што гэта была рабалепская дэкларацыя, ідалапаклонна скіраваная ў бок Расіі.*

*У рэшце рэшт, было створана дзве камісіі, якія дапрацоўвалі прапанову Дэкларацыі. Я ачольваў камісію, якая дапрацоўвала палітычны бок. Другая камісія займалася агульнымі пытаннямі. У выніку мы распрацавалі фактычна новую Дэкларацыю. Яна складалася з 12 артыкулаў. І менавіту гэтую Дэкларацыю прыняў Вярхоўны Савет.*

*Пры прыняцці быў пэўны кур’ёз. Зянон Станіслававіч Пазняк вельмі хацеў, каб яна была рашучай, і каб там не згадвалася тое, што мы будзем працаваць над новай Саюзнай дамовай. Гэтага практычна не магчыма было не ўзгадаць. Амаль усе прадстаўнікі БНФ, якія ўваходзілі ў фракцыю, выйшлі ў час галасавання за гэтую рэзалюцыю. А цяпер яны гавораць, што так зрабілі, каб за яе ўсе прагаласавалі. Гэта, прабачце, жарт. У выніку Дэкларацыя была прынятая.*

*Я лічу, што пасля 25-га сакавіка 1918 года гэта быў самы рашучы крок у бок нашай незалежнасці. Калі ўжо не ўдаецца зрабіць 25-га сакавіка святам Незалежнасці, то 27 ліпеня мае на гэта права. Я лічу, што гэта быў цудоўны крок. У далейшым і БНФ зразумеў, што гэта добры дакумент. Па іх прапанове (я не верыў, што яна будзе прынята) гэтай Дэкларацыі быў нададзены статус Канстытуцыйнага закона. Я лічу, што гэта крок нармальнай барацьбы за незалежнасць, калі не заўсёды разумееш як лепей, але калі заўсёды ты адданы справе.*

Дэкларацыіія аб дзяржаўным суверэнітэце 27 ліпеня 1990 года сталася важным этапам у станаўленні беларускай дзяржаўнасці. Праз год, 25 жніўня 1991 года, Дэкларацыя аб суверэнітэце набыла статус Канстытуцыйнага закону.

*www.racyja.com/index.php?id=104&zoom=16233#.UfbKzudb_xh*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»